# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№ 7 (161)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## МАЎЧАННЕ — САМАЯ СТРАШНАЯ ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

**Словы Аляксандра Лукашэнкі з яго Паслання нацыянальнаму сходу: «Тая вайна каштавала нам мільёнаў жыццяў, і таму мы цвёрда ведаем: няма на Зямлі нічога даражэйшага за мір!» — правільныя.**

Але грош цана ўсяму нашаму святкаванню, калі ў нас з яго дапамогай замоўчваецца самая важная выснова з гэтых слоў. Беларусь у апошнюю вайну была чарговы раз выкарыстаная Імперыяй у якасці буфернай тэрыторыі, шчыта. Калі мы зноў будзем дазваляць выкарыстоўваць сябе ў якасці буфера, поля бою, калі мы забудзем нацыянальны інтарэс, то нас ізноў чакаюць нацыянальныя катастрофы, тут ізноў будзе выпаленая зямля, як у 1812 годзе, у 1915—1920 гадах і ў 1939 (а па вялікім рахунку 1930) —1945 гадах.

Маўчанне пра гэта — і ёсць самая страшная фальсіфікацыя гісторыі, за якую нам ці нашым унукам, барані Божа, калісьці зноў прыйдзецца заплаціць страшную цану.

Адразу пасля вайны Дзень Перамогі адзначалі інакш. Да 1965-га года ён нават не быў выходным днём. А Суслаў прыдумаў Дзень Перамогі менавіта як рэлігійны культ. Як гэтакі культ мёртвых, у якім месцілася адна падзея - вайна з Германіяй (заўважце не ўся вайна, а толькі паміжа чэрвенем 1941 і маем 1945). Каб у гэтым кульце пахаваць усе злачынствы савецкай дзяржавы ад пачатку і да сярэдзіны 60-хх.

Як любы культ, ён абрастае міфамі, рытуаламі і догмамі. Ну, і пры капіталізму, зразумела, становіцца камерцыйным прадуктам. Але застаецца менавіта культам, каб была ў народа гэтакая незажываючая рана. Каб яна не зажывала. Нажмеш на яе, і ад болю забудзешся пра астатняе.

Навошта? Таму што яна вяртае зыходны стан суаднасін імперыі да суб'ектаў - сакралізацыю і непадсуднасць ўлады. Усе ахвяры былі неабходныя. І ўсе будучыя ахвяры таксама будуць неабходныя і апраўданыя. Таму што СССР не пераставаў ваяваць і ахвяраваць жыццямі да самага апошняга дня.

**"Наша Ніва"**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## МЕСЦЫ ДА СЕЗОНА НЕ ГАТОВЫЯ

**У канцы траўня ў раёне павінны завяршыцца працы па падрыхтоўцы да летняга сезона зон масавага адпачынку, якія размешчаныя блізу вады. У ходзе сумеснага рэйду РАУС, пракуратуры і ДАІ праверцы падверглiся пяць месцаў адпачынку.**

Гэта штучная сажалка ў раёне УАЗ "Бешанковіцкая ЦРБ", зона адпачынку "Астроўна" (каля возера Астравенскае), "Паўазер'е" (вёска Паўазер'е), "Вярхоўе" (у аднайменным аграгарадку) і "Аўрора" (кв. 26 Бешанковіцкага лясніцтва, на беразе ракі Бікложа). За кожным з гэтых аб'ектаў замацаваны прадпрыемствы і арганізацыі, якія адказваюць за навядзенне тут парадку.

Маніторынг паказаў, што практычна на кожным аб'екце ёсць хібы: ня вывезена смецце, не адрамантаваныя і ня пафарбаваныя малыя архітэктурныя формы, не ўстаноўленыя указальныя знакі месцаў стаянкі аўтатранспарту ...

Будзем спадзявацца, што недахопы выправяць ў самыя кароткія тэрміны і зоны адпачынку сустрэнуць адпачывальнікаў чысцінёй і парадкам.

**З сайта газеты "Зара"**



НАША ЖЫЦЦЁ

## ДА 9-ГА МАЯ НАВЯЛІ ПАРАДАК

**Праўда, парадак той навялі толькі на цэнтральнай аўтастаянцы і блізу гасцініцы. Але і тое радуе.**

На аўтастаянцы ці не ўпершыню ў гісторыі райцэнтра нанеслі разметку. Цяпер тут адначасова можа размясціцца 44 легкавікі. Раней тут паркаваліся 10 – 15 аўтамабіляў, астатнім знайсці месца было праблематычна.

А гасцініцу проста абкружылі плотам. Пэўна, справядліва вырашылі, што работы па пабудове басейна ўзновяцца не хутка. І горы зямлі, што абкружалі будынак гасцініцы распіхалі.

А што за плотам? Той аб'ект, які планавалася здаць "для народа" ў маі 2015-га – басейн …

**У.Ліпскі**

НАВІНЫ ЭКАНОМІКІ

## ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ПА ЗАРПЛАЦЕ КРЫХУ ЗМЕНШЫЛАСЯ

**Па стану на пачатак мая ў Бешанковіцкім раёне даўгі па заробках маюць чатыры сельгаспрадпрыемствы: ААА "Бешанковічы Аграсервіс", ААА "Бачэйкава-Агра", КСПУП "Плісыагра" і СУП "Свіціна-ВМК". (Месяц назад такіх было шэсць.)**

Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў, што па выніках першага квартала пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце па стану на 1-га мая маецца перад 56, 3 тыс. працаўнікамі. Месяц таму своечасова заробак не атрымалі 90, 8 тыс. працаўнікаў.

Своечасова не выплачваюць заробкі 327 арганізацый. Агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па рэспубліцы за сакавік 2015 года склала 206, 6 млрд рублёў, або 1,1 працэнта ад зарабатнага фонду.

Абсалютная большасць арганізацый, якія не разьлічыліся па зарплаце, знаходзіцца ў Віцебскай вобласці - 188, амаль у тры разы менш у Мінскай вобласці - 64. Найменшая ж колькасць даўжнікоў у Брэсцкай і і Гомельскай абласцях - па чатыры.

Сярод сельскіх раёнаў паўночнага краю, дзе памер сельгаспрадпрыемстваў значна драбнейшы, колькасць даўжнікоў пачынаецца ад 10 прадпрыемстваў. Пры гэтым найбольшая колькасць даўжнікоў у Талачынскім (15) і Мёрскім (14)раёнах.

**М.Васільеў**

КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ

## ВАДА ПА ВЫХАДНЫХ

**У сувязі са сканчэннем ацяпляльнага перыяду 2014-2015 года загадам дырэктара УКП**

ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік» прапісана, што падача гарачай вады будзе ажыццяўляцца з 1 мая 2015 года штотыдзень па графіку:

кацельні «Цэнтральная» - па суботах з 12 да 24 гадзін і нядзелях з 5 да 24 гадзін; кацельнямі РАПТ і «Меліяратараў» - па суботах і нядзелях з 12 да 24 гадзін;

кацельні райбальніцы - з панядзелка па суботу з 6 да 19 гадзін;

кацельнямі ў аграгарадках Ула і Вярхоўе - па аўторках і пятніцах з 14 да 23 гадзін.

Адказнымі за выкананне графіка падачы гарачай вады вызначаны майстры кацельных.

**З сайта газеты "Зара"**

## РАДОЎКА

*Пасвіць кароў –*
*гэта праца з разраду найлепшых:*
*вецер з табою і неба,*
*і птушкі спяваюць.*
*Бедны, хто кажа,*
*што ён памірае ад суму,*
*што гэты дзень*
*за стагоддзі здаецца даўжэйшым.*

*Пасвіш кароў…*
*Столькі думак прыемна вандруе*
*разам с табою па пашы*
*да сонца і зорак.*
*Колькі імёнаў забытых і*
*напаўзабытых,*
*як караблі затанулыя,*
*толькі на пашы*
*назад усплываюць.*
*Колькі гучыць пад скубанне травы*
*галасоў незабыўных!*

*Столькі са мною на пашы*
*было легендарных асобаў,*
*хто памагаў мне*
*і ў спёку і ў дождж надакучны*
*статак ад золкага золку*
*да вечара зорнага пасвіць!*
*Хай памагатыя ўсе пасаблялі*
*не справай, а словам,*
*ды не забуду ніколі*
*хвіліны ўрачыстыя тыя.*
*Спіс той вялізны-вялізны,*
*як поле ці неба…*

*Пасвіш кароў…*
*Пасвіш думкі свае, што як вецер.*
*Ён пераменлівы надта,*
*што й не зразумееш,*
*дзе ён начуе, куды па прасторах*
*вандруе.*
*Я не зайздрошчу яму,*
*ні на кроплю яму не зайздрошчу.*
*Бо ні прыстанку ў яго,*
*ні размовы прыемнай.*
*Вось у мяне, не раўнуючы,*
*столькі было суразмоўцаў!*

*Я ўспамінаю,*
*як пасвіў кароў разам з бацькам.*
*Тыя дзянёчкі*
*сёння здаюцца мне святам.*
*Столькі гісторый*
*ў гадзіны шчаслівыя тыя*
*ён распавёў мне,*
*дастаўшы з запаснікаў важкіх!*
*Столькі аповедаў шчырых*
*паведаў на полі!*

*Як мне хацелася б з ім*
*у разочак астатні*
*тутка сустрэцца,*
*зноў сесці на ўзмежку ўтравелым.*
*Бачыць і сонца, і неба,*
*піць вечную цішу,*
*што над зямлёю прытомленай*
*кружыць і кружыць,*
*і яго голас спакойны*
*ўсё слухаць і слухаць…*

*Мне падаецца часінай,*
*жыццё чалавечае –*
*гэта вялікая і несупынная паста.*
*То мы кагосьці пасём*
*па абставінах нейкіх упарта,*
*то нас пасуць безаглядна*
*абставіны тыя.*
*Варта аднак*
*іх ніколі убок не адпрэчваць,*
*а прыстасоўваць свой розум да іх*
*і жаданні.*

*…Не за гарамі пара ўжо надыдзе,*
*калі загадаюць,*
*пасвіць мне статак кароў*
*не зямных, а нябесных.*

*Думаю, з працаю тою*
*я спраўлюся шчыра…*

***Г.Станкевіч***

ПРАБЛЕМЫ БУДАЎНІЦТВА

# БУДУЕЦЦА ДОМ З САЛОМЫ

**Роўна год таму ў райцэнтры маладая сям'я з райцэнтра распачала будаўніцтва экалагічнага дома.**

Незвычайнасць гэтай будоўлі заключаецца ў тым, што асноўным будаўнічым матэрыялам, які выкарыстоўваецца пры пабудове, з'яўляецца звычайная салома. Праўда, гэта салома спрасаваная ў прастакутныя цюкі. А з той прычыны, што яна валодае нізкай цеплаправоднасцю, то і хата мусіць быць цёплай. У якасці матэрыяла для ўнутранай аддзелкі выкарыстоўваецца гліна.

За кошт прымянення такіх матэрыялаў адзін квадратны метр будзе каштаваць значна танней, чым у дамоў, пабудаваных з традыцыйных матэрыялаў.

На сёння ўжо ўзведзены каркас, які запоўнены прасаванай саломай. Ідзе праца па абмазцы сцен пясчана-глiністай росчынай.

Калі вы хочаце набыць досвед такой будоўлі альбо проста паўдзельнічаць і тым самым аказаць дапамогу, падыдзіце на вуліцу Савецкую.

**Г.Станкевіч**

ЗДАРЭННІ

# КРАДУЦЬ ВЕЛАСІПЕДЫ

**6-га красавіка ў 09-10 у Бешанковіцкі РАУС звярнулася мясцовая жыхарка 1963 года нараджэння. Яна паведаміла, што 5-га красавіка ў перыяд з 18 да 22 гадзін нейкім злачынцам ад дома па вуліцы Урыцкага быў украдзены дарожны ровар.**

Нанесеная шкода склала 1 млн. рублёў. Супрацоўнікамі ОУР РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніла мясцовая жыхарка 1977 года нараджэння. РАСК ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК.

**З сайта УУС Віцебск**

ІНВЕСТЫЦЫІ

# БУДАЎНІЦТВА РАЗАМ З КІТАЕМ БЕШАНКОВІЦКАЙ ГЭС

**РУП "Віцебскэнерга" зацікаўлена ў паглыбленні супрацоўніцтва з Кітаем і прапануе да рэалізацыі інвестыцыйны праект па будаўніцтве Бешанковіцкай гідраэлектрастанцыі (ГЭС), паведамілі карэспандэнту БелТА на прадпрыемстве.**

Прэзентацыя праекта адбудзецца 12 траўня ў ходзе запланаванага візіту ў Віцебскую вобласць дзелавых колаў кітайскай правінцыі Хэйлунцзян. Госці азнаёмяцца і з іншымі інвестыцыйнымі прапановамі Віцебска і СЭЗ "Віцебск", а таксама пабываюць на будаўнічай пляцоўцы Віцебскай ГЭС.

Нагадаем, у 2010 годзе быў заключаны кантракт з Кітайскай машынабудаўнічай інжынірынгавай кампаніяй на будаўніцтва блока ПГУ 400 МВт на Лукомльскай ГРЭС з фінансаваннем дадзеных работ за кошт ільготнага крэдыту Эксімбанка КНР. "Дадзены кантракт паспяхова рэалізаваны, і ў маі 2014 года бакамі быў падпісаны акт аб прыёмцы аб'екта ў прамысловую эксплуатацыю і перадачы яго заказчыку. Пры гэтым усе прадугледжаныя кантрактам тэхніка-эканамічныя паказчыкі дасягнуты ў поўным аб'ёме ", - падкрэслілі на прадпрыемстве. Згодна з дакументам, на 30% кошту кантракта да будаўніцтва павінны быць прыцягнутыя беларускія прадпрыемствы і выкарыстоўвацца беларускія будматэрыялы. Кантроль за гэтым ажыццяўляе заказчык - РУП "Віцебскэнерга".

Віцебская ГЭС дасць магчымасць уключыць у абарот водна-энергетычны патэнцыял ракі Заходняя Дзвіна, чакаецца, што яна стане самай магутнай гідраэлектрастанцыяй ў Беларусі. Яе устаноўленая магутнасць складзе 40 МВт - электрастанцыя будзе здольная забяспечыць электраэнергіяй трацiну Віцебскага раёна. Першую электраэнергію Віцебская гідраэлектрастанцыя павінна выдаць ў 2017 годзе. "Ход работ на будаўнічай пляцоўцы дазваляе з упэўненасцю сказаць, што ўсе кантрактныя абавязацельствы будуць выкананы ў абумоўленыя тэрміны і аб'ект будзе паспяхова ўведзены ў строй", - падкрэслілі на прадпрыемстве.

Бешанковіцкую ГЭС запланавана пабудаваць за 70 км ад Віцебскай ГЭС ніжэй па цячэнні.

Як паведамлялася, у адпаведнасці з Канцэпцыяй энергетычнай бяспекі Беларусі да 2020 года на Заходняй Дзвіне прадугледжваецца стварэнне каскаду з чатырох гідраэлектрастанцый: Полацкай, Віцебскай, Бешанковіцкай і Верхнядзвінскай. Як мяркуецца, іх сумарная устанаўчая магутнасць складзе 110-125 МВт.

Віцебскае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства электраэнергетыкі "Віцебск-энерга" уваходзіць у склад ДВА "Белэнерга" Міністэрства энергетыкі Беларусі. Віцебская энергасістэма з'яўляецца найбуйнейшай у краіне, яе устаноўленая электрычная магутнасць больш за 3,5 тыс. МВт, што адпавядае каля 38% магутнасці ўсіх электрастанцый, якія ўваходзяць у склад "Белэнерга".

**БелТА**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ПАРТЫЗАНЫ МЕЛІ ЗАГАД ПАЛІЦЬ ШКОЛЫ

**Былы партызан і франтавік, доктар мэдыцыны Іван Данілаў ніколі ня ўдзельнічаў у парадах на Дзень Перамогі. Хоць напісаў пра вайну восем кніг. Днямі ён наведаў новазбудаваны Музэй гісторыі Вялікай Айчыннай, і наша гутарка пачалася са сьвежых уражаньняў.**

***— Іван Пятровіч, калі я пабываў у тым музэі, то ў мяне было такое адчуваньне, быццам там паказаная толькі палова вайны. А вы што скажаце?***

— Музэй сапраўды паказвае толькі палову вайны. Я памятаю стары музэй, які разьмяшчаўся на Кастрычніцкай плошчы, то там было больш праўдзівых экспанатаў. У новым музэі я пагаварыў з кандыдатам гістарычных навук Валерам Протчанкам, які там працуе, і спытаўся: чаму ў вас не паказана, як Сталін перад вайной распусьціў кампартыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, як ён загадзя рыхтаваўся да падпісаньня пагадненьня з Гітлерам? Тады ж многія антыфашысты былі расстраляныя ў падвалах НКВД. Пра Хатынь у музэі сказана. А пра Катынь? Хай бы зьмясцілі ў экспазыцыю рашэньне Палітбюро ЦК ВКП(б) пра расстрэл 25 000 палонных польскіх афіцэраў. На выхадзе з музэю я сустрэўся з польскімі турыстамі і спытаўся пра іхныя ўражаньні. Яны адказалі: «To muzeum kłamstwa» (гэта музэй падману). Ну, я так не скажу, там ёсьць і шмат добрых экспанатаў. Лепш будзе сказаць, што гэта музэй напаўпраўды.

***— А дзе шукаць праўду пра вайну?***

— Праўда пра вайну — у творах Васіля Быкава. Як ён напісаў — так і было, а ня так, як падавала і падае савецкая і постсавецкая прапаганда. Мае ўражаньні пра вайну толькі нэгатыўныя. На ёй было праліта столькі крыві! Я лічу, што нашы камандзеры не бераглі салдатаў, вышыні браліся салдацкай крывёю. Некалі амэрыканскі генэрал Эйзэнхаўэр спытаўся ў маршала Жукава: «Як вы праходзіце мінныя палі?». І Жукаў адказаў: «Мы спачатку пускаем пяхоту, а потым ужо — танкі». Вось такія адносіны ў савецкай арміі былі да простых салдатаў. Быкаў і пра гэта таксама напісаў. Увогуле, лепш за яго пра вайну не сказаў ніхто. А пра партызанку праўдзіва напісаў Алесь Адамовіч. Я чытаў яго аповесьці, глядзеў фільм «Ідзі і глядзі», ён таксама праўдзіва зьняты.

***— Сёлета мне давялося пабываць у трох вёсках, спаленых савецкімі партызанамі, — у Нацкаве на Мастоўшчыне, у Борках і Буле Івацэвіцкага раёну. А ў вашым рэгіёне партызаны не ваявалі са сваім народам?***

— У адной са кніжак я напісаў пра адну з такіх вёсак — Канюхі, на беларуска-літоўскім памежжы. Партызаны, абвінавачваючы вяскоўцаў у тым, што яны дапамагалі Арміі краёвай, вёску спалілі і 36 чалавек расстралялі. У нашай брыгадзе быў спэцатрад, які займаўся падобнымі справамі. Скажам, у вёсцы Язьвіны была забітая сям'я Салівончыкаў, у тым ліку двое дзяцей, толькі за тое, што галава сям'і працаваў пры немцах аграномам. Гэта рабілася зь ведама камандаваньня. Партызаны з таго атраду расстралялі таксама аднаго ўкраінца, які хаваўся ад мабілізацыі ва УПА, западозрыўшы ў ім шпіёна.

***— Існуе такое меркаваньне, што партызаны правакавалі немцаў на карныя апэрацыі ў вёсках. А вы як лічыце?***

— Такія правакацыі мелі месца. Мэта іх была — каб як мага больш людзей прыйшло ў партызаны. А да 1942 году актыўная партызанка не вялася. Раскажу вам адну гісторыю. У Іванаўскім раёне падчас вясельля быў забіты праз акно нямецкі афіцэр, які на ім прысутнічаў. Немцы аблажылі вёску. Людзі ім казалі: «Гэта правакацыя, мы ведаем, хто гэта зрабіў, мы самі яго знойдзем». А немцы ў адказ: «Чакайце загаду зь Пінску». І адтуль прыйшоў загад — усё вясельле расстраляць... Немцы чамусьці лёгка вяліся на падобныя правакацыі. Нездарма Сталін калісьці казаў: «Гэта добра, што немцы такія дурныя». Немцы, напрыклад, неўзабаве пасьля пачатку вайны арыштавалі Сьцяпана Бандэру і трымалі яго ў канцлягеры да 1944 году.

***— Як падае гісторык Юры Туронак, толькі ў адной Слонімскай акрузе партызанамі было спалена 40 беларускіх школаў. А школы навошта палілі?***

— Быў такі загад усім партызанам — паліць усе школы, каб немцы не выкарыстоўвалі іх пад казармы. Загад, на маю думку, бязглузды. Я лічу, што яго аддаў Панамарэнка. Мы таксама палілі ўсе школы. А калі настаўнікі не згаджаліся ісьці ў лес, партызаны маглі іх расстраляць.

***— Але пра гэта не піша газэта «Беларусь сегодня», пра гэта не расказвае БТ. Там ужо месяцы два — суцэльныя фанфары. Навошта вайна, як і за савецкім часам, міталягізуецца?***

— Таму што для прапаганды патрэбныя міты, а ня праўда. Глядзіце, колькі хлусьні выліта на тую ж УПА — бандэраўцы-фашысты і г. д. А вазьміце, відаць, і вам добра вядомую са школы Зою Касмадзям'янскую. Яна была псыхічна хворай, пра гэта мне пад вялікім сакрэтам яшчэ ў 60-я гады паведаміла прафэсар псыхіятрыі Скугарэўская. Хворую Касмадзям'янскую, якая яшчэ да вайны знаходзілася на ўліку ў псыхлякарні, лютай зімою паслалі падпаліць хаты ў падмаскоўнай вёсцы Пятрышчава, дзе хаваліся ад холаду ня толькі немцы, але і мірныя жыхары. Якія ўрэшце і затрымалі падпальшчыцу. Ня немцы затрымалі, а вяскоўцы — як вар'ятку-падпальшчыцу. Вось такая гераіня, але як яе праслаўляла савецкая прапаганда!

***— 70-годзьдзе Перамогі аб'яднаная Эўропа адзначае асобна ад Расеі. Ці ня ўсе кіраўнікі краін аўпраігнаравалі запрашэньне Пуціна прыехаць на парад у Маскву. Вы ў гэтым глябальным супрацьстаяньні на чыім баку?***

— Я на баку праўды. А праўда такая. У свой час я быў у ЗША і спытаўся ў тамтэйшых вэтэранаў, чаму яны не адзначаюць ні 8-га, ні 9 траўня — як дні перамогі над гітлераўскай Нямеччынай, чаму не адзначаюць перамогу над Японіяй? І мне такія ж вэтэраны, як і я, адказалі, што ня хочуць быць падобнымі на дзікуноў, якія, страціўшы палову сваіх воінаў, скачуць ля пераможнага вогнішча. Вайна — бяда ня толькі для тых, каго перамаглі, але і для тых, хто перамог. Нашы пампэзныя сьвяткаваньні патрэбныя таксама выключна для прапаганды. Вось цяпер гэтых «начных ваўкоў» не пусьцілі ў Польшчу. І Масква лямантуе. А для палякаў 50 пасьляваенных гадоў — тое самае, што калісьці былі 150 гадоў у складзе Расейскай імпэрыі, гэта значыць — пэрыяд няволі і акупацыі.

***— Вы маеце баявыя ўзнагароды — ордэн Айчыннай вайны I ступені, мэдалі «За баявыя заслугі» і «Партызану Вялікай Айчыннай вайны». Чаму вы ня ўдзельнічаеце ў афіцыйных урачыстасьцях?***

— А мяне туды ніхто не запрашаў. Ні разу я ў тых парадах ня ўдзельнічаў. Арганізатары юбілейных урачыстасьцяў, мабыць, і ня ведаюць пра маё існаваньне, я ж звычайны вэтэран, не генэрал ці палкоўнік. Праўда, нядаўна я атрымаў ад дзяржавы 8 мільёнаў рублёў — у гонар Дня Перамогі. Будзе за што выдаць наступную кнігу.

**Гутарыў Міхась Скобла**
**Радыё Свабода**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

# ГЛАВНЫЙ ПРАЗДНИК

**Монополия на власть невозможна без приватизации истории. Здесь стоит вспомнить Оруэлла: «Кто владеет настоящим, тот владеет прошлым, а кто владеет прошлым, тот владеет будущим».**

Раз в год НИСЭПИ составляет рейтинг доверия к государственным и общественным институтам. В тройке лидеров вместе с православной церковью неизменно оказывается армия. Откуда такая популярность у народа, чей национальный гимн начинается словами: «Мы, белорусы, - мирные люди»?

Начну с экономического парадокса. Добывая около 1,5 миллиона тонн нефти в год, республика-партизанка экспортирует 13-14 миллионов тонн нефтепродуктов. Как такое возможно?

С формальной точки зрения понять этот парадокс очень просто. На территории Беларуси еще в советское время были построены два мощных нефтеперабатывающих завода. Но зачем? В БССР до распада Советского Союза на 1000 жителей приходилось менее 50 легковых автомобилей. Сегодня - около 300. Советский Союз нефтепродукты не экспортировал. Так кто же их потреблял? Главным потребителем была армия. Под каждым белорусским кустом находилась воинская часть.

Еще один пример. В 1974 году я окончил химический факультет БГУ. Одновременно с дипломом мне вручили военный билет лейтенанта химических войск. Все советские молодые люди в вузах параллельно осваивали воинские специальности.

После окончания университета и до распада Советского Союза в 1991 году я проработал на предприятии электронной промышленности (ПО «Интеграл»), что специализировалась на выпуске электронных компонентов для систем вооружений. Таким образом, весь советской период моей жизни был связан с армией. При этом в армии я ни одного дня не служил.

**Пошлая девушка Елизавета I**

Российское государство на протяжении 1000-летней истории развивалась как милитаристкая. Сам факт наличия мощной армии не делает государство таким. Милитаристское государство - это такое государство, в котором военная жизнь не только во время войны, но и в мирное время выстраивается по военному образцу. Гражданское население при этом управляется как армия.

Если мы обратим свой взгляд в прошлое, то увидим, что в московской Руси все население делилось на командиров, солдат и работников. Задача работников заключалась в том, чтобы кормить командиров и солдат. Такая социальная структура сохранялась до конца XX века.

Милитаризацию жизненного уклада передает язык. Все, что происходило в СССР, официально называлась «борьбой» и «штурмом». В телевизионных новостях уборка урожая подавалась как «битва за урожай». Школьники на уроках литературы писали сочинения на тему «Из одного металла льют медаль за бой, медаль за труд». Советское государство заботилось о здоровье населения, но только потому, что нуждалась в здоровых солдатах.

Социальная система, управляемая как армия, несовместима с рынком. Таким образом, она несовместима с частной собственностью. Еще в XIX веке английский философ Герберт Спенсер указал на наличие двух типов социальной организации - «воинственной» и «промышленной». Соответственно, двух типов кооперации - «насильственной» и «добровольной». Пример первого типа - армия, где люди подчиняются приказам, а все ресурсы распределяются административными методами. Пример второго типа - контрактная система, в которой производители и потребители добровольно обмениваются услугами.

Спенсер считал, что «воинствующий» тип социальности прошли все народы. Вспомним средневековую Европу. Феодализм представлял собой одну из моделей милитаристской организации госу-дарства и социума. Феодалы владели землей в обмен на службу. Но в феодальной иерархии у вассалов были не только обязанности, но и права.

В этом смысле на Руси феодализма никогда не было. Один пример. В британских архивах было найдено письмо царя Ивана Грозного королеве Елизавете I. Он был написан 28 октября 1570 года. Приведу самый яркий фрагмент письма: «У тебя люди торговые думают не о государственном удобстве, а о своих личных. И потому есть ты пошлая девица ».

А теперь перенесемся в современность. «Если государство скажет, что я должен отказаться от компании, я откажусь. Я сразу все отдам». Это высказывание одного из богатейших людей России, «алюминиевого короля» Олега Дерипаски.

**Демилитаризация как проблема**

Для понимания остроты современного момента обратимся к пословице: «Пережили голод, переживем и изобилие». Странная, на первый взгляд, пословица. Получается, что простому человеку жить легче в условиях недостатка, чем в условиях экономического процветания.

Всё логично. Милитаристкое государство может быть стабильным только в условиях чрезвычайного положения, высшим проявлением которого является война. Война оправдывает полное бесправие человека перед государством. Война оправдывает принудительное перераспределение ресурсов. Война не требует от человека выбора. Он должен просто выполнять команды.

Милитаризм, как и разруха, - не в клозетах, а в головах. Поэтому в условиях мира привычные ценности разрушаются. Героизм и борьбу за общий интерес начинают вытеснять интересы частной жизни. Но удовлетворять такие интересы милитаристская держава не способна по определению. Нет рынка. Следовательно, нет и механизма обратной связи с материальными интересами простых людей.

В условиях чрезвычайного положения формируется элита, способная отвечать на внешние и внутренние угрозы. В демократических государствах отбор лучших во власть осуществляется через механизм выборов. В милитаристских государствах сама чрезвычайная обстановка

*(працяг на стар. 4)*




ПРАЦОЎНАЯ МІГРАЦЫЯ

# БЕЛАРУСЬ – ДОНОР ЛЮДСКИХ РЕСУРСОВ

**В то время как граждане стран Евросоюза и даже Средней Азии бегут из охваченной шовинизмом и экономическим кризисом России, белорусы в поисках лучшей жизни, наоборот, стремятся к восточным соседям.**

По данным Федеральной миграционной службы (ФМС) Российской Федерации, за последний год (с апреля 2014-го и по настоящее время) количество белорусских мигрантов в этой стране увеличилось на 137,2 тыс человек или на 34,4%. Активнее наших сограждан за этот период переезжали только украинцы. Армия украинских мигрантов в РФ пополнилась на 950,1 тыс человек или на 59,2%. Прирост произошел в основном за счет беженцев из охваченного войной Донбасса.

Примечательно, что по масштабу миграции в Россию белорусы опередили даже вездесущих китайцев, а также граждан Казахстана и Армении. За последний год китайская диаспора в России выросла на 44,4 тыс человек (21,1%), казахстанская — на 78,1 тыс (13,8%), армянская — на 36,9 тыс ( 8%).

Именно Украина, Беларусь, Казахстан, Китай и Армения обеспечили за последний год России положительное миграционное сальдо: 163,4 тыс человек.

А вот жители Евросоюза и других стран Запада активно уезжают из России. В частности, за последний год уехали 108,5 тыс граждан Германии и 44, 4 тыс обладателей финских паспортов. Всего за этот период РФ покинули около 400 тыс граждан государств ЕС, США, Австралии, Новой Зеландии, Норвегии. Главная причина — обострение политической ситуации, рост шовинистических настроений в российском обществе.

Бегство граждан среднеазиатских государств из России связано с экономическим кризисом. Наибольший отток зафиксирован среди мигрантов из Узбекистана и Таджикистана: соответственно 300,7 тыс и 108,6 тыс человек.

Как свидетельствуют данные ФМС на апрель 2015 года, белорусская диаспора в России насчитывает 536,3 тыс. человек. Наши соотечественники занимают 7-е место по численности во всей 11-миллионной армии мигрантов.

Самое большое представительство имеет Украина: 2 млн 554,9 тыс. человек (23,3% от общего количества мигрантов), далее следует Узбекистан — 2 млн 104,1 тыс. (19,2%), Таджикистан — 971,8 тыс. (8,9%), Казахстан — 644,4 тыс. (5,9%), Азербайджан — 555,8 тыс. (5,1%) и Молдова — 553,2 тыс. (5,1%).

**Николай Адашкевич**
***"Заўтра тваёй краіны"***

СМІ РАСІІ

# КРАМЛЁЎСКАЯ ЦЭНЗУРА

**Выступаючы ў Маскве 10 траўня, канцлер Нямеччыны Ангела Мэркэль назвала расейскую анэксію Крыму «злачыннай». Перакладчык на расейскую апусьціў гэтае вызначэньне, ня трапіла яно і ў афіцыйную крамлёўскую справаздачу.**

10 траўня на прэсавай канфэрэнцыі ў Маскве, канцлер Нямеччыны Ангела Мэркэль заявіла: «Мы дасягнулі супрацоўніцтва паміж НАТО і Расеяй. У сувязі з крымінальнай і незаконнай, паводле міжнароднага права, анэксіяй Крыму і ў сувязі з ваенным канфліктам ва Ўсходняй Украіне, гэтаму супрацоўніцтву была нанесеная сур'ёзная шкода.»

Вызначэньне «злачынная», аднак, не было перакладзенае перакладчыкам-сынхраністам на расейскую мову падчас прэсавай канфэрэнцыі. Тыя, хто слухаў толькі перакладчыка, атрымалі ўражаньне, што Мэркэль лічыць захоп Крыму толькі «парушэньнем міжнароднага права.»

Няясна, ці перакладчык сьвядома зьмякчыў фармулёўку, якую ўжыла нямецкі канцлер. Але ў любым выпадку, менавіта больш мяккая вэрсія выступу Ангэлы Мэркэль прадстаўленая на сайце Крамля ў афіцыйнай стэнаграме прэсавай канфэрэнцыі. У расшыфроўцы выступу, апублікаванай канцылярыяй нямецкага канцлера, фармулёўка пра «злачынную анэксію» Крыму прысутнічае.

Прынамсі, адзін чалавек зразумеў слова «verbrecherisch»(злачынны—ням.), якое ўжыла Мэркэль — гэта Ўладзімер Пуцін. У свой час ён служыў у прадстаўніцтве КДБ СССР у Дрэздэне, ён свабодна валодае нямецкай мовай.

Падчас прэсавай канфэрэнцыі ў яго быў навушнік на левым вуху, праз які ён мог слухаць пераклад. Але правым вухам, вольным ад навушніка, ён мог слухаць выступ кіраўніцы нямецкага ўраду.

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫ

*(пачатак на стар. 3)*

выталкивала наверх тех, кто способен брать на себя ответственность.

В конце 1980-х годов Михаил Горбачев провозгласил политику разрядки, политику демилитаризации. Америка перестала быть главным врагом СССР, что стало одним из факторов распада советской империи. Нет врагов - нет и нужды в авторитарном государстве.

Горбачев наивно надеялся, что демилитаризация страны поможет решить текущие проблемы. Но он выпустил джинна из бутылки. Демилитаризация - это не решение проблемы, это сама проблема.

Что мы имеем сегодня? С конца XX века мир живет в условиях отсутствия угрозы большой войны. К чему это привело?

По количеству долларовых миллиардеров Россия занимает пятое место в мире (108 человек в 2014). На первом месте США - 515 миллиардеров. В пять раз больше, чем в России. ВВП США также в 5 раз больше, чем в России. Но история американских миллиардеров насчитывает около 100 лет. Первый был Джон Рокфеллер. В то же время русские создали свои богатства буквально из ничего за 20 лет.

Разумеется, управлять друзь-ями-миллиардерами может только главный миллиардер. Мнения экспертов об имуществе Путина расходятся. Суммы фигурируют от 40 до 200 миллиардов долларов. Но есть вещи, которые современная фотоаппаратура позволяет оценить точно. Это часы. Официальный доход Путина в 2011 году составил около 120 тысяч долларов, а стоимость коллекции часов превысил его годовой доход в 6 раз.

**Приватизированная Победа**

Государственная бюрок-ратия, сформированная в чрезвычайных условиях, способна отдавать и выполнять приказы, но она не в состоянии функционировать в правовой среде. Поэтому, как только угроза большой войны отпала, в странах СНГ началась деградация национальных властных «вертикалей». Каждый чиновник на своем рабочем месте превратился в маленького президента. И все, что сегодня связывает больших и маленьких президентов вместе, - это борьба за поддержание стабильности, под которой они понимают сохранение личной власти.

Ни о каком развитие при этом не может быть и речи. Поэтому умерла идеология, ибо некому сформулировать образ будущего. Элиты заняты личным обогащением. Обогащаются они не за счет создания, а, в первую очередь, за счет расхищения государственных бюджетов всех уровней. И в этом смысле они могут быть чрезвычайно эффективными. Один пример. Зимние Олимпийские игры в Монреале стоили 6 миллиардов долларов. В Сочи - более 50 миллиардов. Чувствуете разницу?

Элиты, не способные сформулировать образ буду-щего, пытаются приватизиро-вать прошлое. Победа в Великой Отечественной войне - его центральный опорный символ и повод для национальной гордости.

«День Победы, - отмечает директор «Левада-Центра» Лев Гудков, - становится все более значимым как в системе пропаганды, так и в системе легитимации власти. Нет других оснований, кроме постоянных отсылок к этому событию, к этой дате. Так происходит коллективное национальное самоутверждение. Важно понимать, что это не только победа над фашистской Германией, но и победа над Западом. СССР сделал то, что не смогли сделать все другие западные страны. Очень символическое событие».

Победа, в ее официальной трактовке, - это всегда «наша Победа», которую «мы никому не отдадим». Отсюда постоянные призывы ввести уголовную ответственность за фальсификацию истории Великой Отечественной войны. Под фальсификациями, естественно, подразумеваютсялюбыеоценки,которые противоречат оценкам приватизаторов.

**Сергей Николюк**
**"Новы час"**

МЯСЦОВАЕ САМАКІРАВАННЕ

# УЛАДЫ РАСПАЧАЛІ ТРАЎЛЮ НЕЗАЛЕЖНАГА СТАРЭЙШЫНЫ

**Ігар Грышанаў, старэйшына вёскі Стаўры Аршанскага раёна, збіраецца звярнуцца з заявай у міліцыю і пракуратуру, каб абаранілі яго права на асабістае жыццё. Да гэтага часу яму даводзілася змагацца толькі за правы аднасяльчан і адстойваць іх інтарэсы.**

Ігар Грышанаў з 2004 года выконваў абавязкі старэйшыны вёскі. У мінулым годзе ААТ "Аршанская птушкафабрыка" зруйнавала вясковы клуб, не ўлічваючы пажаданні вяскоўцаў. Грышанаў ад імя стаўроўцаў звяртаўся за дапамогай у розныя інстанцыі, апошняя заява была скіравана ў суд Аршанскага раёна. Заява па сутнасці не была разгледжана, паведамляе карэспандэнт КРЫНІЦА. INFO.

Праз тыдзень пасля паседжання суда, 30 красавіка, старшыня Бабініцкага сельсавета Марына Матвеева сабрала сход вяскоўцаў, каб выбраць іншага старэйшыну вёскі. Маўляў, Ігар Грышанаў не начуе ў вёсцы. Але жыхары не пагадзіліся з яе прапановамі і настойвалі на тым, каб застаўся Ігар Грышанаў. За яго пераабранне аднагалосна прагаласавалі ўсе ўдзельнікі сходу. Не завяршыўшы сходу, Марына Матвеева села ў машыну і паехала з вёскі.

Вяскоўцы былі абураныя такімі паводзінамі мясцовага кіраўніцтва. Але замест таго, каб улічыць інтарэсы жыхароў і працягваць працаваць на паляпшэнне дабрабыту вяскоўцаў, старшыня Бабініцкага сельсавета распачала ў адкрытую траўлю на Ігара Грышанава.

5 траўня зранку Грышанаў патэлефанаваў у Бабініцкі сельсавет да старшыні з просьбай, каб да Дня Перамогі адрамантавалі агароджу ля магілак, якую зламалі трактарам. На што атрымаў адказ:

— Вы не з'яўляецеся старэйшынам. Я сама буду вырашаць, што і калі рабіць.

А праз гадзіну Матвеева прыехала на машыне і на шчыце для аб'яў і ў іншых месцах вёскі расклеіла аб'явы наступнага зместу:

«Па выніках праведзенага сходу грамадзян, ініцыятарам якога быў Бабініцкі сельскі выканаўчы камітэт, прапанаваныя старшынёй сельсавета кандыдатуры Шульгіной Р.Т. і Сліжовай А.Б., як старэйшынь населенага пункта, падтрыманы не былі. Кандыдатура Грышанава І.І. на галасаванне не выносілася, таму што ён з'яўляецца пастаянным жыхаром Оршы і пражывае там у сваёй кватэры. (Далей указаны адрас кватэры, якая знаходзіцца ў прыватнасці Грышанава, але ў якой ён не жыве і не прапісаны – КРЫНІЦА.INFO) Таму ў цяперашні час пытанне аб выбранні старэйшыны вёскі не вырашана.

Усім грамадзянам па надзённых пытаннях звяртацца ў Бабініцкі сельсавет па нумарах тэл. 8033-399-99-87, 28-69-86, 28-69-72. Кожны чацвер з 11.30 да 13.00 будзе ажыццяўляцца выязны прыём грамадзян старшынёй Бабініцкага сельсавета на месцы прыпынку аўтакрамы».

Месца прыпынку аўтакрамы — ля дома Грышанава, насупраць знесенага клуба.

Ігар Грышанаў лічыць дзеянні уладаў сельсавету парушэннем яго правоў і збіраецца пісаць заяву ў міліцыю аб разгалошванні адрэсы кватэры і звярнуцца ў пракуратуру.

**krynica.info**

КАМУНАЛЬНЫЯ ПЛАЦЯЖЫ

# СКОЛЬКО БЕЛОРУСЫ НЕ ДОПЛАЧИВАЮТ ЗА КОММУНАЛКУ?

**Население полностью возмещает затраты на оказание жилищно-коммунальных услуг. Только белорусские власти не говорят об этом народу.**

Понятная и прозрачная информация о государственных расходах – прекрасная идея для обратной стороны жировки и для веб-сайтов министерств и ведомств. Вот только что там напишут работники ЖКХ, если о формирование затрат и себестоимости коммунальных услуг чиновники ничего не могут объяснить даже президенту?

«До сих пор у меня полной ясности нет. Говорят, что населению надо возмещать 60% затрат и сегодня этого нет. А я скажу, что 70% есть! Потому что, во-первых, я не знаю истинных тарифов ЖКХ, и мне кажется, что эта себестоимость у них увеличена — факты приводили, она в два раза выше, чем могла бы быть», - утверждал Александр Лукашенко еще в 2013 году.

С тех пор ясности больше не стало, а правительство по-прежнему предполагает выйти на определенный процент возмещения населением затрат на оказание жилищно-коммунальных услуг. К началу 2015-го это должно было быть 60%, и весь 2014-й тарифы росли угрожающими темпами. До стопроцентного возмещения предполагалось прежде всего повысить цены на услуги с невысокой себестоимостью — техобслуживание жилфонда, водоснабжение, канализация, вывоз отходов, обслуживание лифтов.

Последнее подорожание 2014-го года состоялось 1 декабря, когда стоимость жировки для средней семьи из трех человек, проживающей в стандартной двухкомнатной квартире, выросла приблизительно до 420 тысяч рублей в месяц. Казалось бы, вот они заветные 60%. Но нет, Министерство ЖКХ заявило, что это по-прежнему 30% реальных затрат.

Складывается любопытная ситуация - как бы ни росли тарифы на коммуналку, белорусы никак не могут возместить государству все затраты на ЖКХ. А вот если бы тогда тарифы взяли и увеличили сразу в 3-4 раза, то удалось бы нам расплатиться с государством? Или это опять составило бы какое-то количество условных процентов?

А еще интересно узнать, за счет чего правительство покрывает разницу. Если мы постоянно платим 30%, то кто доплачивает остальные 70%?

Не сложно догадаться, что разница покрывается из государственного бюджета, который формируется за счет налогов, пошлин и прочих сборов, которые исправно платят все, включая «тунеядцев». Платят НДС и акцизы, когда покупают себе «чарку и шкварку» в магазине, платят пошлину, когда пригоняют и «растамаживают» иномарку, платят 13% подоходного налога, когда получают зарплату, а сверху платят еще 34% в Фонд социальной защиты населения.

Вот, например, в 2014-м из бюджета страны на статью «Жилищно-коммунальное хозяйство» было потрачено 11,35 трлн. рублей. И если разделить эту сумму на количество домохозяйств за вычетом тех, у кого нет горячей воды (а таких у нас до сих пор 20%), то получится в среднем 3,6 миллиона рублей в год, или 300 тысяч в месяц на домохозяйство.

Выходит, что в среднем в 2014 году мы платили 300 тысяч по жировке, а еще 300 тысяч через налоги в бюджет и по цепочке на ЖКХ. Но ведь от перекладывания денег из кармана в карман их больше не становится, не так ли?

Белорусы всегда платили 100% от стоимости услуг ЖКХ, хотя бы уже потому, что кроме нас за ЖКХ платить больше некому.

Так что «Кошт урада» предлагает поместить на обратной стороне жировки следующий текст: «Уважаемые клиенты, большое спасибо, что платите 100% стоимости и терпите качество наших услуг».

**Владимир Ковалкин**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# ПАДТРЫМКА ЕЎРОПЫ

**Дэпутаты Еўрапейскага парламенту новага склікання зноў вырашылі ўзяць апякунства над беларускімі палітзняволенымі.**

Апякунства еўрапейскіх парламентарыяў над палітычнымі вязнямі мае паказаць беларускім уладам, што каштоўнасці дэмакратыі застаюцца важнымі нават на тле вялікіх геапалітычных зрухаў, адзначала спадарыня Адамовіч.

Гэтая ініцыятыва еўрапейскіх дэпутатаў азначае, што ў кожнага з беларускіх палітычных зняволеных з'явіўся прадстаўнік у дэмакратычных інстытутах еўрапейскіх краін.

«Гэта чалавек, які, як мы (родныя палітзняволеных – рэд.) спадзяемся, будзе сачыць за падзеямі вакол нашых блізкіх і будзе нагадваць еўрапейскім палітыкам пра тое, што ў Беларусі, на жаль, дэмакратычных зменаў не адбываецца, будзе дамагацца, каб з нашай дапамогай нашыя родныя былі на волі і Беларусь зноў вярнулася ў шэраг дэмакратычных краін», – заўважыла спадарыня Марына.

12 траўня ў Бруселі прайшла сустрэча сваякоў беларускіх палітвязняў з прадстаўнікамі Еўрапейскага парламенту. Адным з пасланняў афіцыйнаму Менску стала стварэнне ў Еўрапарламенце адмысловай групы, якая будзе сачыць за лёсам палітзняволеных у Беларусі.

**belsat.eu**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.05.2015 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.